BIEŁARUSKAJE ABJADNANNIE STUDENTAŬ

# APOŚNIJA PAVIEDAMLENNI BAS

Нр.2

Шаноўныя члены БАС-у і ягоныя прыхільнікі! Аддаем у Вашыя рукі другі нумар " Апошніх Паведамленняў."- унутрана - інфармацыйнага бюлетэня беларускіх студэнтаў у Польшчы. Паведамляем, што сядзібай Галоўнай Рады БАС- у з'яўляецца Варшава, вуліца Кракоўскае Прадмесце 24, комната нумар I8.

## ШТО АДБЫЛОСЯ.

22.02.I989. У Беластоку адбыўся заснавальніцкі сход гуртка БАС-у супольнага для Мэдычнай Акадэміі і Філіяла Варшаўскага Універсітэту у Беластоку. Старшынёй гуртка выбраны Юрка Каліна студэнт гісторыі. На жаль на сходзе прысутнічала толькі невялікая частка беларускага беластоцкага студэнцтва.Цікава як доўга яшчэ будзе трываць сон "нашых" хлопцаў і дзяўчат у Беластоку?
Падаем адрасы студэнтаў у Беластоку, у якіх можна атрымаць інфармацыі пра БАС,а таксама атрымаць легітымацыі.
Юрка Каліна, вул. Звежынецкая 8, дом студэнта Гамма к.406.
Барбара Кучынская, вул. Акадэміцкая 3, дом студэнта к. I22

25.02.I989. У Варшаве адбыўся чарговы баль Беларускага Студэнта, які быў арганізаваны БАС-ам. У мерапрыемстве удзельнічалі студэнты з Варшавы, Беластоку, Любліна, Ольштына, Торуня, а таксама сябры палякі. Прысутных каля I00 асоб. Вялікае дзякуй для арганізацыйнай камісіі, якая ня гледзячы на вонкавыя перашкоды, пераадолела ўсе цяжкасці. З нецярплівасцю чакаем наступных так удалых баляў.

4.03.I989. У Беластоку адбываўся Цэнтральны Агляд Беларускай Песні. У гэтым годзе студэнты ўдзельнічалі пакуль што як гледачы. У будучыні думаем самыя выступіць. На фінальным канцэрце каля 40 студэнтаў з бела- чырвона-белым сцягам сваімі воплескамі разагрэла спевакоў і публіку. Бадай, што ўпершыню афіцыйна падзякаваў студэнтам старшыня ГП БГКТ А. Баршчэўскі. БАС таксама прызнаў сваю ўзнагароду за найлепшы падбор тэксту песні.

I0.03.I989 У Гайнаўскім доме культуры БАС наладзіў сустрэчу паміж вучнямі ліцэяў а студэнтамі. Тры канкурэнцыйныя каманды:"Калі ласка"- ліцэй з Гайнаўкі, "Тураўцы"- ліцэй з Бельска і "Басалыгі"- так назваліся студэнты, змагаліся ў розных канкурэнцыях.Мерапрыемства выйгралі ліцэалісты з Гайнаўкі перад "Тураўцамі" з Бельска і намі "Басалыгамі".

Студэнты сцвердзілі пасля:" Што мы прайгралі толькі тактычна, але ідэйна быў гэта наш вялікі выйгрыш". Удзельнічала ў мерапрыемстве блізка 200 асоб. Слова падзякі кіруем для усіх тых, што падрыхтавалі гэтую "імпрэзу".

II.03.1989. У Беластоку у студэнцкім клубе "Гвінт" адбыліся Запусты. Запусты арганізаваў БАС супольна з Брацтвам Праваслаўнай Моладзі у Беластоку.Думаем,што Запусты балі пачаткам плённага супрацоўніцтва між гэтымі арганізацыямі. Пры добраймузыцы, таксама беларускай, каля 300 асоб гуляла доўга за поўнач.

I4.03.I989.У Любліне быў пакліканы да "жыцця" гурток БАС-у. Старшынёй выбраны Ярэк Іванюк студэнт гісторыі I курса. Пакуль,гурток налічвае 20 асоб. На заснавальніцкім сходзе былі таксама прадстаўнікі люблінскай "Салідарнасці", якія вельмі прыхільна стаўляцца да справы нацыянальных меншасцяў, а таксама паабяцалі помач у будучыні.

I6.03.I989. У гэты дзень узнік гурток БАС-у на Варшаўскім Універсытэце. У выніку галасавання старшынёй гуртка выбраны Мікола Ваўранюк студэнт гісторыі. Цешыць, што большасць выбранага праўлення гуртка гэта студэнты першага курса. Легітымацыі БАС-у у Варшаве можна набыць у Ані Матысюк,дом студэнта, вуліца Кіцкего 9,комната 935.

I6.03.I989. Галоўная Рада БАС-у атрымала ліст ад Краёвай Каардынацыйнай Камісіі Незалежнага Згуртавання Студэнтаў,у якім чытаем:

" II лістапада мінулага году члены Беларускага Аб'яднання Студэнтаў накіравалі ў адрас НЗС ліст са словамі салідарнасці. I6 сакавіка гэтага году Краёвая Каардынацыйная Камісія НЗС прыняла змест лісту беларускім студэнтам.

Краёвая Каардынацыйная Камісія дзякуе Беларускаму Аб'яднанню Студэнтаў за ліст з нагоды польскага нацыянальнага свята II лістапада. Набліжаецца 25 сакавіка - 7I гадавіна апавяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Незалежніцкія памкненні беларускага народу зазналі паражэння. Польскія незалежніцкія імкненні таксама паносіліпаражэнні. Аднак у I9I8 годзе па гадах барацьбы ўзнікла незалежна Рэчыпаспаліта.

Вітаючы сёння нашых беларускіх сяброў з нагоды Іх свята,перасылаем Ім адначасна словы стваральніка польскай незалежнасці, маршалка Юзэфа Пілсудскага: " **Być zwyciężonym i nie ulec to zwycięstwo** "

Краёвая Каардынацыйная Камісія Незалежнага Згуртавання Студэнтаў.

23.03.1989 У Беластоку ўпершыню пасля вайны, БАС афіцыйна наладзіў святкаванне 7I угодкаў Акту Незалежнасці Беларусі. Дакладнейшыя інфармацыі аб святкаванні ў наступным нумары "Апошніх паведамленняў".

Рэдакцыя "Апошніх Паведамленняў" лічыць неабходным знаёміць чытачоў з праблемамі, якія існуюць у Савецкай Беларусі. Сёння прапануем увазе выбраныя фрагменты з праекту праграмы Моўнай камісіі пры Беларускім фондзе культуры прынятай 28 красавіка 1988 году. Праект праграмы як дагэтуль не пабачыў свету ў савецкіх беларускіх газетах, з увагі на вострасць зместу. Прыведзеныя фрагменты друкуем за публікацыяй " Нацыянальная мова ў Сацыялістычнай дзяржаве. Дакумент аб стане беларускай мовы ў Савецкай Беларусі"- выдадзенай у Лёндане ў 1988 годзе.

" У гарадах БССР, дзе беларусы складаюць 71,5% жыхароў і дзе пражывае большасць насельніцтва рэспублікі, няма ніводнай беларускай школы. На 1987 - 1988 навучальны год у гарадах рэспублікі ёсць дзевяць беларускамоўных класаў /восем у трох мінскіх школах і адзін у Новаполацку/, у якіх навучаюцца па 10 -15 вучняў у кожным класе.

...Вакол гэтых класаў , аднак, створана вакуум: не хапае падручнікаў, настаўнікаў, метадычнай дапамогі, чыняцца ўсякія перашкоды. Беларускія класы ператвараюцца ў свайго роду "рэзервацыі", што выклікае ў нармальных дзяцей "комплексы" і адчужэнне.

У Беларусі павінны адчыняцца не "класы",а беларускія школы. Прытым яны павінны адчыняцца адначасова з пераходам справаводства ў рэспубліцы на беларускую мову....За пасляваенныя гады ў БССР, акрамя настаўнікаў філолагаў, не падрыхтавана ніводнага настаўніка для беларускамоўнай пачатковай і сярэдняй школы. Гэта таксама адзін з метадаў русіфікацыі адукацыйнай сістэмы. Настаўнік, што не валодае беларускай мовай і тэрміналогіяй, імкнецца выкладаць свой прадмет у беларускай школе па-руску, падтрымлівае поўны перавод школы на рускую мову.

....Колькасць беларускамоўных школ, як і раней, няўхільна скарачаецца. У Мінскай вобласці напрыклад, за апошнія 15 гадоў беларускіх школ паменшала ўдвая.

Трывожнае становішча склалася ў выдавецкай справе. У 1984 годзе ўдзельная вага выданняў мастацкай літаратуры на беларускай мове ў рэспубліцы склала 4,7% ад агульнай колькасці такіх выданняў. Што датычыць іншай- тэхнічнай, грамадска - палітычнай літаратуры, дык працэнт беларус камоўных выданняў у гэтай катэгорыі яшчэ меншы. У той час як колькасць экзэмпляраў выданняў на мовах усіх саюзных рэспублік у пасляваенныя гады ў СССр няспынна расла/так, з 1940 па 1981 г агульны тыраж кніг на ўкраінскай мове вырас у 2,4 разы, ...на рускай і літоўскай - у 4,5 разоў на эстонскай - у 5,9 разоў.../, агульная лічба беларускамоўных кніг, выдадзеных за год, фактычна застаецца на адным і тым жа ўзроўні/ у 1940 было выдадзена 7,8 млн. экз. а ў 1981 - 7,9млн/. Агульны тыраж шасці рэспубліканскіх газет на беларускай мове ў 10 разоў меншы за тыраж пяці рускамоўных газет.

...Нам трэба цяпер рэальна паглядзець на самiх сябе, убачыць i зразу мець, што наша нацыянальнае грамадства - хворае грамадства. У iм руйнуюцца жыццёва важныя традыцыi, парушаюцца псiхалагiчныя сувязi ўнутры этнаса, занепадае творчасць, распаўсюджваецца бескультур'е, масавая псiхалогiя. ...Памоўе спрыяе таму, што нацыя робiцца раз'яднанай, безабароннай перад антынароднай бюракратычнай палiтыкай, разгулам бюракратычных карпарацый i ведамстваў, перад разбурэннем культуры i прыроднага асяроддзя, перад рэпрэсiямi, хлуснёй i дэмагогiяй, спажывецтвам i алькагольным атручваннем народа.

.... Навт агульныя колькасныя паказчыкi сведчаць пра нашае адставанне. У Саюз кампазiтараў БССР, напрыклад, уваходзiць усяго 76 чалавек /звесткi з 1986 г./. З iх толькi 32 беларусы/42%/. У Саюзе мастакоў аб'яднана 513 чалавек. З iх толькi 269 беларусаў. Сярод выкладчыкоў ВНУ усяго 56% беларусаў.

Каментар выдаецца непатрэбным. Рэдакцыя.

БАС ЗАПРАШАЕ

1. На заняткi Беларускага Народнага Унiверсiтэту,якiя адбываюцца кожную пятнiцу у 17 гадзiн у будынку ГП БГКТ вул. Варшаўская 11. ТОЛЬКI ТАМ ЗДАБУДЗЕШ ВЕДЫ ПРА ГIСТОРЫЮ I КУЛЬТУРУ БЕЛАРУСI.

2. Прыняць удзел у танцавльнай студэнцкай групе / мабыць другая Лявонiха Заняткi адбываюцца раз у тыдзень таксама ў будынку ГП БГКТ. Блiжэйшыя iнфармацыi атрымаеце ў Аляксандра Карпюка, вул. Звежынецкая 8 ком.406

3. Хочаце слухаць беларускiя праграмы студэнцкага радыё "Акадэра" ? Дык трэба памагчы Славiку Сакалоўскаму, якi чакае Вас у ком.423 дом студэнта "Гамма",вул.Звежынецкая 8.

4. Тых, хто сур'ёзна хоча заняцца гiсторыяй, культурай, лiтаратурай Беларусi сардэчна запрашае навуковая камiсiя БАС-у.Iнфармацыi атрымаеце пiшучы да Алега Латышонка, Кракув - Азоры, вул.Л.Свабоды 7кв.40 або ў Юркi Калiны.

Б А С  Ч А К А Е  ВАС!!!!

Выдаецца на правах рукапiсу .